Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

**Вільня, 4 лістапада 1933.**

# РОДНЫ КРАЙ

**ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкратар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

**№ 22.**

**Год 1-шы**

**выходзіць двойчы ў месяц.**

**Цана асобнага нумару 20 гр.**

## На выбары ў самаурады!

**У бліжэйшым часе распачынаюцца ў нас выбары ў вясковыя самаўрады. Ужо ў лістападзе маюць адбыцца выбары у „грамадзкія рады“, якія зьяўляюцца фундамэнтам у запраўдным самаўрадзе.**

**Ня будзем тутака—цяпер, перад самымі выбарамі, калі трэба ўжо прымаць у іх актыўнае ўчасьце, — крытыкаваць самы наш самаўрадавы лад: у сваім часе мы пісалі ўжо аб хібах і недахопах таго новага, выданага 23 сакавіка 1933 г., Закону аб самаўрадах, які яўна зьмяняе на горшае папярэдні закон, стаўляючы выбары і выбарныя ўстановы яшчэ ў большую залежнасьць ад адміністрацыйнае ўлады, чым было раней. Ня будзем рабіць гэтага яшчэ й таму, што толькі што апублікаванае Распараджэньне Міністра Унутр. Спраў 17|Х-33 у значнай меры папраўляе памылкі закону 23|ІІІ-33 г.— Адзначым затое вялізарнае значэньне самаўрадаў наагул, як найлепшай — практычнай, самадзейнай — школы грамадзка-гаспадарскага ўзгадаваньня для нашага, усьцяж мадзеючага ў грамадзкай разьбітасьці, расьцярушанасьці і бязьдзейнасьці, народу. Пры ўсіх хібах і заганах самаўрадавага закону, пры ўсім абмежаньні ім запраўднага самаўрадаваньня народу,—усё-ж навет у такіх вузкіх рамках самаўрадуючая вёска—пры дружным высілку яе жыхараў — узыходзіць на шлях развою і поступу, на шлях разьвіцьця сваіх духовых і матэрыяльных сілаў. Як бы цяжка ды павольна ні адбываўся гэты працэс развою, як бы цяжкай і быццам безнадзейнай ні зьяўлялася барацьба за голас і волю народу ў гэтых самаўрадах, але,—раз узышоўшы на гэты шлях, — сьведамы сваіх правоў і абавязкаў народ ня дасцца нікому з яго сапхнуць.**

**Культурна - гаспадарская праца перад усім мае тое значэньне, што яна лучыць народ, творыць у яго нетрах тыя духовыя сілы і вязі, якія адраджаюць і адбудоўваюць у ім расьцярушанае „палітыкай“ жывое, органічнае яго адзінства. Ня кажам ужо аб тым, што толькі праца ў галіне культуры і гаспадаркі творыць і матэрыяльныя вартасьці, уадымае жыцьцёвы дабрабыт народу, даючы яму тым самым і больш сілаў ды больш часу для бясспыннага і бязьмежнага будаваньня творчага духа народнага. І вось цяпер, калі ўжо распачынаецца падгатоўка да выбараў у вясковыя самаўрады, мы зварачаемся з гарачым, шчырым заклікам да ўсіх сьведамых нацыянальна, да ўсіх культурна і гаспадарска мацнейшых адзінак нашага народу:**

**Усе, як адзін,—на выбарную працу!**

**Усе—на фронт выбараў у самаўрады, каб прыдаць ім чым больш блізкі да народу, а гэта значыць—чым больш беларускі-сялянскі, чым больш паважны, дзелавы, вартасны і адказны характар.**

---

**Як ведама, Закон 23|ІІІ-33 г. ставіў гэтаму нашаму законнаму і разумнаму імкненьню значныя перашкоды. Закон гэты ставіў—на нашых беларускіх нацыянальных абшарах—варункам выбару ў радныя Грамадзкай Рады, як і на становішчы солтысаў (і падсолтысаў) у грамадах, абавязковае веданьне кандыдатамі польскае мовы, дый ня толькі ў слове, але й на пісьме. Ясна, што гэтым загадам Закону кіруючай выбарамі адміністрацыі згары давалася неабмежанае права проста адкідаць кожнага кандыдата-беларуса, ня толькі добра граматнага па беларуску, але навет і па-польску: ці-ж запраўды цяжка было „зрэзаць“ такога кандыдата-беларуса на прадбачаным у Законе „эгзамене“ у „веданьні польскае мовы ў слове і на пісьме“? Бо-ж ніякае праграмы гэтага „веданьня“ Закон не падаваў!..**

**Цяпер новым распараджэньнем Міністра (17. Х. 33) гэты крыўдны і ў значнай меры недарэчны варунак адкінены блізу цалком. Новае распараджэньне Міністра прыпыняе на 5 гадоў гэны варунак закону 23. ІІІ. 33. Толькі той радны Грамады (на нашых беларускіх абшарах), які пройдзе ў радныя гміны дый далей ставіць сваю кандыдатуру ў сябры павятовае рады, толькі ён павінен ведаць польскую мову, дый то—толькі ў слове, а гэта значыць — павінен разумець польскую гутарку дый умець самому выражаць зразумела для іншых сваю думку папольску.**

Абавязку пісьменнасьці папольску няма гэтак навет для раднага павету.

Такім чынам, калі закон 23. III. зачыняў беларускаму сялянству дзьверы самаўрадаў усіх трох „паверхаў", дык распараджэньне 17. X.—наадварот — шырока расчыняе перад беларусамі гетыя дзьверы, а тым самым—як быццам і дае ўсім беларусам магчымасьць найшырэйшага, найактыўнейшага ўчасьця ў выбарах, дый ня толькі сваімі галасамі, але і сваімі людзьмі-працаўнікамі — кандыдатамі на радных усіх паверхаў самаўрадавае пірамiды.

Распараджэньне 17. X. прыпыняе на 5 год таксама і варунак абавязковага веданьня польскае мовы на пісьме — і для кандыдатаў на солтысаў і падсолтысаў на нашых беларускіх абшарах наагул. Тольні ў слове, а не на пісьме, павінны ведаць польскую мову кандыдаты на падсолтысаў у беларускіх паветах Беластоцкага ваяводзтва: Беластоцкім, Бельскім, Сакольскім і Горадзенскім. У паветах Наваградзкага ваяв. зволынены ад абавязку ведаць польскую мову на пісьме навет солтысы, а падсолтысы могуць ня ведаць яе навет і ў слове. Урэшце — на абшары ваяв. Палескага, як і Віленскага, і солтысы, і падсолтысы зволынены ад абавязку ведаць польскую мову — ня тольні на пісьме, але навет і ў слове.

Ізноў, такім чынам, акт 17. X. адчыняе беларускім самаўрадавым дзеячом магчымасьць шырокага ўчасьця — ня толькі ў радах самаўрадавых, але і ў выканаўчых органах самаўраду, у нашы часы мо' яшчэ больш важных.

Ясна, што і на гэтую працу беларускім мяйсцовым паважным грамадзкім працаўніком таксама трэба йсьці грамадой.

Ня трэба толькі так разумець гэтыя „палёгкі" акту з 17 кастрычніка для беларускіх самаўрадаўцаў, як „скідку", так сказаць, з іх „цэнзу граматнасьці". Бо-ж, адкідаючы цэнз польскае граматнасьці, міністэрскі загад зусім не касуе гэтым бязумоўнага абавязку для раднага, солтыса і падсолтыса быць граматнымі наагул. Ясна, што, зволыненыя ад абавязку веданьня польскае мовы, яны тым самым маюць яшчэ большы абавязак ведаць у слове й на пісьме сваю родную беларускую мову. Дый хто-ж будзе выбіраць у радныя ці ў солтысы „сьляпога ды нямога"—няпісьменнага" „працаўніка-самаўрадаўца"?! Каму й нашто ён быў-бы патрэбны, каго й што ён патрапіў-бы кантраляваць, каго пачуў-бы, каго зразумеў, каму адказаў, як радны ці ўрадавец Грамады ці Гміны?!!

—·—

Паўтараючы наш заклік: усе на выбарны фронт!—мы канчаем сяньня нашу статцю і абяцуем у наступных нумарох „Роднага Краю" даць практычныя інфармацыі аб выбарнай працы на падставе Закону аб выбарах і міністэрскага Распараджэньня.



# Жыцьцё Пружаны.

**Карэспандэнцыя.**

I.

Павятовае места Пружана — тыповае беларускае места.

Раскінутае на паўдзённа-заходнім канцы Палесься, значна прыпаднятай і ўзгаркаватай, адзначаецца маляўнічасьцю, што, як кажуць пружанцы, ня сгома іншым палескім гарадом. Цікава, што сябе пружанцы таксама ніколі не залічаюць да паляшукоў.

Пад'яжджаючы да Пружаны шасой або вузкакалейкай з Аранчыц (станцыя на лініі Варшава—Менск—Масква) вырысоўваецца на небасхіле некалькі ветракоў-млыноў — старажылаў старое, зямляробскае Пружаны. Кідаюцца ў вочы дзьве царквы, будынак вучыцельскай сэмінарыі, наўбоччы стаіць касьцёл, а далей рад вуліцаў з шмат-дзе крытымі саломай хатамі. Цэнтр гораду з тыповымі гандлёвымі радамі мае ўсе адзнакі правінцыянальнага павятовага места, у якім новыя будынкі і электрычнасьць як-бы адзначаюць прагрэс часу.

Спэцыяльная манаграфія аб Пружане ёсьць толькі ў жыдоўскай мове („Пінкус"), аб пружанскай эканоміі напісана ёсьць праца ў Віленскім унівэрсытэце (але не друкаваная). Места старое і захоўвае памяткі з XV веку. Аб заснаваньні яго існуе рад легендаў. Між іншым ёсьць і малапраўдападобная, як кажа А. Кіркор, наступная: назоў Пружана (якая раней называлася Дабучынам) паходзіць ад таго, што нянька гаспадароў места, трымаўшая ў руках іхняе дзіця, упусьціла яго ў раку Мухавец, праплываючую праз Пружану. Гэткім чынам рака „пажрала" дзіця. Адсюль і паходзіць нібы назоў Пружана (пажрала—пажарла—Пружана). Падобнае, нібы навет і нелёгічнае тлумачэньне назову, знаходзіць поўнае пацьверджаньне ў гэрбе магістрату места, на якім нарысованы вужака, які трымае ў роце дзіця. Гэрб гэты надавы Пружане ў 1588 годзе Ганнай Ягельлёнкай, жонкай Сьцяпана Баторага, да якой і належала калісь гэтае места. Пасьля далучэньня Пружаны да Расеі, места стьлася ў 1796 г. павятовым („уездным").

Сваёй разбудове заўдзячыць места крыжаваньню шосаў, якія пабудаваны расейцамі ў мэтах стратэгічных і разыходзяцца ў 6-ёх кірунках. Блізкасьць Берасьця, Белавежы, Кобрына ды іншых важных для паўдн.-заходняе часткі Беларусі асяродкаў— ажыўляюць Пружану.

Падчас агульнага перапісу з 19 сьнежня 1931 г., паводле якога Пружана налічвае 8 (восем) тысячаў і 13 чалавек, выявілася значная, хоць далёка няпоўная, сьведамасьць пружанцаў свае беларускае нацыянальнасьці. Не абходзілася і тут без надужыццяў рожных „патрыятычных" польскіх перапісчыкаў. Праўда, палову насельніцтва складае

элемэнт жыдоўскі, але, дзякуючы сваёй арганізаванасьці, мае ў мястовай радзе 18 радных, у той час, як беларусы толькі 2-ух. Затое польскае, прыезнае чыноўніцтва і асаднацтва мае аж чатырох радных. Гэтак навонак выглядае нібы „нацыянальная рэпрэзэнтацыя" Пружаны ў мястовай радзе. Нічога дзіўнага, што й магістрат аболугоўвае выключна інтарэсы жыдоў і палякоў. Калісьці, за лепшых часоў, былі асыгнаваны на беларускую гімназію грошы (паўтары тысячы злотых), як часовая дапамога, але ніхто іх ня меў і ня бачыў.

**М. Дубоўня.**

(Дакачэньне будзе).

# Гаспадарчы аддзел.

## Больш увагі перапрацоўцы лёну.

Надыйшоў час, калі кабеты канчаюць работы ў полі і пачынаюць сушыць і церці лён. Ня гледзячы на тое, што край наш вельмі добра надаецца дзеля культуры лёну і яго ў нас параўнальна шмат сеецца, усё ж такі апрацоўку яго ў нашых вёсках трэба лічыць вельмі нездаваляючай, а дзеля таго ільнянае валакно траціць шмат на сваёй якасьці.

На якасьць валакна ўплывае шмат чыньнікаў. Абмінаючы ўмовы глебавыя і кліматычныя, якасьць ільнянага валакна ў вялікай меры залежыць ад таго, як лён сеецца, калі зьбіраецца, сушыцца і, што найважнейшае, як мочыцца або росіцца.

Апрача ўсяго гэтага, аб чым больш дэтальна будзем пісаць другім разам, якасьць ільнянага валакна такосама ў вялікай меры залежыць і ад таго, як лён сушыцца і трэцца. Устаноўлена, што ў нашых вясковых сушнях сушыцца лён зусім нездаваляючэ. Атрымліваецца валакно пракопчанае дымам, нямоцнае, мала эластычнае, а часта нават набірае цемнаватага колеру. Каб гэтага пазбыцца, рэкамэндуецца ў вясковых сушнях рабіць коміны і старацца, каб цяплыня ў сушні, калі там сушыцца лён, не перавышала 55—60° С.

Апрача недакладнасьцяў у сушцы, вельмі кепскімі зьяўляюцца і прылады, на якіх лён труць. Звычайна гэта ёсьць т. зв. шчэлявыя церніцы, на якіх валакно рвецца. Лепшымі за гэтыя ёсьць драўляныя трохвальцавыя церніцы, але найлепшымі і доўгатрывалымі будуць церніцы з вальцамі чыгуннымі.

## Асеньнія працы ў садзе.

Канец кастрычніка і пачатак лістапада ў нашых умовах ёсьць найлепшаю парою для дагляду садоў. Найгалаўнейшыя працы, якія павінны быць у гэтую пору выканаваны, ёсьць наступныя:

1. Надыйшла ўжо пара для перасадкі ўсіх пладовых дрэваў і кустоў. Перасаджваць агрэст і парэчкі лепей за ўсё ўвосені, бо вясною яны шыбка даюць гоны. Таксама восень—найлепшая пара для перасаджваньня ўсялякага роду дзічак.

2. Восеньню высяваюцца і зярняты пладовых дрэваў. Калі-ж гэтага па якой-небудзь прычыне нельга зрабіць, то трэба зярняты злажыць у гаршчочак з-пад вазону, перасыпаючы вільготнаю зямлёю або пяском. Гаршчочак трэба прыкрыць вечкам і закапаць у склепе ў зямлю.

3. Канец кастрычніка і пачатак лістапада ёсьць найлепшаю парою для ачышчаньня пнёў ад моху і лішаёў. Найлепей пні ачышчаюцца ў вільготнае надвор'е. Ачыстка вядзецца пры дапамозе трыкутнага жалезнага скрабла, узьдзетага на кій. Здымаць адмёршую і патрэскаўшуюся кару трэба асьцярожна, пакуль ня зьявіцца жоўтая гладкая кара, і ні ў якім разе ня можна чапаць зялёнае, жывое кары. Аскрэбленую кару трэба сабраць і спаліць. Найболей моху і лішаёў на дрэвах бывае ў тых садох, якія маюць мала прапушчальную глебу і загуста пасаджаныя дрэвы. Гэтае апошняе трэба мець на ўвазе пры закладцы новага саду.

4. Апрача ўсяго вышэйсказанага восень ёсьць найлепшаю парою для пабелкі пладовых дрэваў. Асеньняя пабелка лепей за вясеньнюю тым, што восеньню пабеленае дрэва ня так баіцца маразоў, а падругое, к лету, калі кара патрабуе найболей прыступу вольнага паветра, пабелу на дрэве застанецца вельмі мала.

Дзеля пабелкі ўжываецца вапна, якая павінна быць згашана за 2-3 дні перад пабелкай. Сьвежа гашанай вапнай нельга бяліць, бо можа зашкодзіць кары. Каб вапна лепей трымалася, дамешваецца да яе яшчэ гліна. Карысна таксама дадаць на вядро пабелу 1 фунт (400 гр.) сярчану жалеза. Сярчан жалеза забівае розныя грыбныя споры і цалком забясьпечвае пень ад рознага роду казулек.

Маладыя дрэвы да 15 гадоў нельга абмазваць вапнай, каб не пашкодзіць кары. Для пабелкі такіх дрэваў радзяць ужыць рашчыну крэйды. Рашчыну гэтую многія робяць распушчаючы крэйду ў сабраным малацэ.

5. Карысна яшчэ з восені пазьбіраць сухое лісьце і застаўшыяся засохшыя плады. Усё гэта трэба потым абавязкова спаліць.

6. Калі маліна сядзіць на адным мейсцы ўжо болей 5 гадоў, то трэба яе перасадзіць. Пры перасаджваньні трэба зямлю добра ўтаптаць.

**З. К.**

## Рыначныя цэны ў Вільні. (3. XI. 1933).

Жыта 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Ячмень гурт 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 2 зл. дэт. 2 зл. 20 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 00 гр. дэт. 3 зл. 20 гр. Бульба стар. кілягр. 0,80 гр., дэт. 1 зл. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 40 гр. — 3 зл. 80 гр., масла гаспадар. 2 зл. 80 гр. — 3 зл. 20 гр. Яйкі 8-9—9-10 гр. Даляр 5 зл. 75 гр.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Пратэст Беларускага Навуковага Т-ва.** На адбытым 31-га кастрычніка Надзвычайным Агульным Сходзе Сяброў Белар. Навук. Таварыства ў Вільні разглядалася справа тэй асаблівай „рэформы“ беларускага правапісу, якую спадручнікі Чырвонае Масквы правялі ў БССР „адміністрацыйным парадкам“ з мэтай „збліжэньня беларускае мовы да расейскае“.

Пасьля ўступнога слова старшыні гр. Луцкевіча зрабіў даклад сябра Ураду Т-ва В. Грышкевіч, які падрабязна разгледзіў пастановы дэкрэту савецкіх уладаў аб зьмене беларускага правапісу. Падчас жывога абмену думак, усе сябры Т-ва аднагалосна выказалі думку, што неабходна апублікаваць уматываваны пратэст проці ўчыненага Саветамі гвалту над беларускім народам і навукай наагул.

Ад імя Прэзыдыуму быў прачытаны праект рэзалюцыі. Падчас дыскусіі над рэдакцыяй рэзалюцыі гр. гр. Астроўскі і Пецюкевіч запрапанавалі дапоўніць яе, зьмяшчаючы ў ёй зьмест галоўных пастаноў дэкрэту, проці якіх выступае рэзалюцыя. Сход пастанавіў даручыць Ураду зрабіць запрапанаванае дапаўненьне і апублікаваць рэзалюцыю ад імя Т-ва.

**Навукова-дасьледчая Беларуская Студыя.** Беларускае Навуковае Т-ва апрацоўвае праект з'арганізаваньня Беларускае Студыі ў Вільні, каторая магла б хоць у пэўнай меры запоўніць для беларусаў нястачу беларускае катэдры ў Віленскім Унівэрсытэце і іншых вышэйшых школах Польшчы. Шчыра жадаем, каб праект Т-ва ўдалося зьдзейсьніць чым хутчэй.

**„Беларусы і жыды“.** Цікаўную стацьцю пад гэтым загалоўкам, напісаную беларусам, зьмясьціў польскі часопіс „Przegląd Wileński“ ў апошнім сваім нумары з 29-га кастрычніка. Аўтар стацьці зварачае ўвагу на тое, што сярод жыдоўскага грамадзянства няма зацікаўленьня беларускай справай, і што па мястэчках жыдоўскія гандляры сваімі паступкамі прычыняюцца да псаваньня добрых дагэтуль беларуска-жыдоўскіх адносінаў.

Нам здаецца, што справа тут, аднак, не ў гандлярох мястачковых, а ў перадавых павадырох жыдоўскага грамадзянства, якія завязываюць блізкія зносіны з польскім грамадзянствам, а на беларускае, як ня маючае сілы ў дзяржаве, не зварачаюць ніякае ўвагі. Думаем, што, наадварот, іменна жыды-мястэчкоўцы жывуць бліжэй з беларусамі, чым „вярхі“ грамадзянства. Апошнім трэба аб гэтым паважна падумаць!

**„Русская душа“ прамовіла!** У мінулую суботу, 27 кастрычніка, д-р Ян Станкевіч чытаў у хадэцкім „Інстытуце Белар. Гасп. і Культ.“ лекцыю аб савецкай „рэформе“ беларускага правапісу, востра крытыкуючы яе. На вялікае зьдзіўленьне прысутных, у абароне „рэформы“ выступіў адзін беларускі дзеяч з ТБШ п. С. Паўловіч. Але дзівіцца тут няма чаго: гэты пан да вайны быў інспэктарам народных школ і, служачы „верой и правдой царю и отечеству“, змагаўся на гэтым становішчы з беларускім адраджэнскім рухам, праінкаўшым ужо тады да вучыцельскіх народных школ. Дык ня дзіва, што цяпер ён так уцешыўся з прычыны савецкае „рэформы“, узнаўляючае палітыку абмаскоўліваньня беларусаў, і хваліць яе. Старая закваска адрыгнулася...

**Кс. Станкевіч і Акіньчыць.** Пасьля таго, як мы выкрылі праведзены цішком факт уваходу ў хадэцкі „Нацком“ компромітуючае асобы п. Акіньчыца, кс. Станкевіч прызнаўся ў сваёй атручанай „Крыніцы“, што ўжо „збратаўся“ з гэным панам.

Што-ж: абое рабое! Або, кажучы папольску: „swój do swego po swoje“...

## У Чэхаславаччыне.

**Беларускі Загранічны Архіў у Празе.** Ад Кіраўніка Архіву мы атрымалі наступнае пісьмо, у якім ён, дзякуючы за прысылку газэты „Родны Край“, дае наступныя інфармацыі.

„Беларускі Архіў у Празе зьбірае для калекцыі як дакумэнты, так і ўсе беларускія газэты, часопісы, кніжкі, брашуры, а таксама гэтыя матэрыялы ў іншых мовах, калі датыкаюцца беларусаў, ці Беларусі. Архіў ня толькі мае гістарычнае значэньне, але і ў сучаснасьці зьяўляецца прапаганднай крыніцай беларускай справы: напрыклад, у Архіў прыходзяць усякія дасьледча-навуковыя камісіі і адзіночныя вучоныя асобы, як мяйсцовыя, так і заграничныя, дзе атрымліваюць патрэбныя інфармацыі. Апрача гэтага час ад часу робяцца выстаўкі славянскіх часопісаў, у якіх прымае удзел і Беларускі Архіў. Другая ў гэтым годзе выстаўка пачалася 23 верасьня (афіцыяльна была адчынена 2 кастрычніка) і трывала да 14-га кастрычніка. Уступ на выстаўку быў вольны, г. зн. бясплатны. Аддзелы выстаўкі былі пад нацыянальнымі сьцягамі. Беларускі аддзел, апрача свайго сьцягу, быў удэкараваны фатаграфіямі беларускіх тыпаў і географічнай картай. Выстаўка рабілася ў доме земляробскае асьветы, дык у часе выстаўкі чыталіся лекцыі-рэфэраты на спэцыяльныя тэмы, асабліва па земляробству, і разыгрываліся розныя кнігі па бясплатным лётарэйным білетам. Кніжныя выстаўкі робіць Аб'яднаньне Славянскіх Жанчын (Jednosta Slovanskych Žen), якое імкнецца да збліжэньня ўсіх славян шляхам узаемнага культурнага знаёмства“.

Успомніўшы аб гэтай жаноцкай арганізацыі ў Празе, аўтар пісьма напамінае аб арганізацыі беларускіх жанчын у Вільні:

„У 1931 г. было зарганізавана ў Вільні „Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын" імя Алёізіі Пашкевічанкі (Цёткі). Гэтая жаночая арганізацыя выдавала свой сымпатычны орган „Жаночая Справа", які—па выхадзе некалькіх нумароў—занік. Па майму зданьню занік ён таму, што выдаваўся штомесячна, дык кошт выдаткаў правышаў прыбытак. Каб ён выдаваўся спачатку па чэцьверцям году і ў меншым разьмеры, дык, можа быць, дагэтуль існаваў-бы. Судзячы па характару журнала ў 1931 г., ня думаю, каб у Вільні цяпер не знайшлося інтэлігентных працаўніц, дык ці нельга было-б гэтую працу абнавіць? Для нагляду прыкладываю „Vestnik Jednoty Slovanskych žen" № 1, які выдаецца па меры патрэбы. У Празе жаночых культурных арганізацыяў ёсьць некалькі.

„З беларускім прывітаньнем

**М. Вершынін**".

Апошняе пажаданьне гр. Вершыніна можам толькі горача падтрымаць!

# Палітычная хроніка.

**Першае паседжаньне Сойму.** Першае паседжаньне Сойму назначана на 3 лістапада. На парадку дня — першае чытаньне скарбовае ўставы і бюджэту на 1934 — 1935 бюджэтны год (бюджэтны год лічыцца ад 1 красавіка па 31 сакавіка наступн. году). Бюджэт прадбачыць даходаў на 2 мільярды 117 мільён. 652.880 зл., а выдаткаў—на 2 165.441.340. Такім чынам прадбачыцца недабор каля 50 мільёнаў. Як ведама, на пакрыцьцё недабору пойдзе частка сумаў з нацыянальнае цазыкі.

**Студэнцкія разрухі ў Варшаве.** З прычыны крывавых сутычак паміж эндэцкімі і „санацыйнымі" арганізацыямі студэнтаў Варшаўскага унівэрсытэту міністар асьветы зачыніў унівэрсытэт на неазначаны час. Шмат хто з удзельнікаў „баёў" пацягнены да судовае адказнасьці, як і сам рэктар унівэрсытэту—за „бязьдзейнасьць улады". Паміж эндэцкай і ўрадавай прэсай ідзе вострая палеміка аб тым, хто вінаваты ў гэтым нячуваным „азьвярэньні" сучаснага студэнства ў Польшчы.

**Цэмэнтавы картэль пад судом.** „Картэль" гэта адна з формаў аб'яднаньня ўласьнікаў аднародных адзінак прадукцыі (прыкладам заводаў, вырабляючых цэглу ці жалеза і інш.) — у мэтах „рэгуляваць", чытай: дыктаваць на свае вырабы-тавары цэны на рынку. Ясна, наколькі можа быць шкодным такі картэль заводчыкаў ці фабрыкантаў, спыняючы паміж імі здаровую і карысную для спажыўца канкурэнцыю.

Толькі адзін з масы існуючых дый працьвітуючых у Польшчы картэляў (цэмэнтавы) папаў урэшце пад суд. Суд сурова засудзіў яго, прызнаўшы яго дзейнасьць „пагражаючай дабру грамадзянства". Магчымасьць такога суду над усемагутнымі картэлямі стварыў нядаўна выданы дэкрэт Прэзыдэнта Рэспублікі. Але слушна блізу ўся прэса пытаецца, чаму гэта толькі адзін з масы картэляў папаў пад суд, а рэшта, ня менш, але яшчэ больш жыруючых на згаладелым ад крызісу спажыўцу картэляў дагэтуль свабодна прадаўжае сваю „пагражаючую грамадзкаму дабру" дзейнасьць.

Як ведама, магутным козырам усіх гэтых картэляў зьяўляецца тое, што яны арганізуюцца быццам з мэтамі, галоўным чынам, пляновага і арганізаванага экспорту (вывазу) сваіх тавараў заграніцу. За гэта ўрад і дазваляе ім жыраваць на скуры краёвага спажыўца, спаганяючы з яго кішані тыя „страты", якія быццам дае картэлянтам вываз іх тавараў заграніцу па таннай цане. І на гэтым грунце робяцца страшэнныя надужыцьці—пакуль што яшчэ бяскарна. Але першы працэс проці картэляў дае надзею, што і на гэтую фабрыканцкую „эліту" спадзе калісьці цяжкая рука караючага закону".

---

**Прысьпяшэньне працы Прэзыдыуму разбраенчае Канфэрэнцыі.** Зусім неспадзявана — пад націскам Амэрыкі — дэлегаты вялікіх дзяржаў, сябры прэзыдыуму Канфэрэнцыі, пастанавілі перанесьці яго паседжаньне з 9 лістапада, як было пастаноўлена раней, на 3—з тым, каб, сабраўшыся напярэдадні, яны маглі выпрацаваць свае прапазыцыі прэзыдыуму. Паінфармаваныя газэты пішуць, што йдзе тутака аб тым, каб—новым націскам на Францыю—дабіцца ад яе новых уступак Нямеччыне, а тым самым—аблягчыць апошняй паварот на канфэрэнцыю.

Амэрыка наагул націскае на канфэрэнцыю, каб тая, калі і адложыць сваю далейшую працу над „грунтоўным" (?) разбраеньнем, дык прынамся падпісала хаця-б якую „куцую" конвэнцыю (супольную ўмову), якая-б, зьняўшы хаця частку мілітарнага цяжару з дзяржаўных бюджэтаў, дала-б магчымасьць народам больш мець вольнай гатоўкі ў кішэнях, каб яны маглі... больш купляць амэрыканскіх тавараў!

**Урадавы крызіс і новы ўрад у Францыі.** 24 кастрычніка ўрад Далядье, атрымаўшы недавер у парляманьце, падаўся ў адстаўку. За ўрад галасавалі 241 пасол, проці 329. Справу вырашылі галасы социялістаў, якія дагэтуль, не ўваходзячы ў склад габінэту Далядье, падтрымлівалі аднак-жа яго ў палаце.

Бліжэйшай прычынай адмовы социялістаў у падтрыманьні ўраду зьявіўся § 37 апрацаванага Далядье праекту бюджэтных ашчаднасьцяў, які значна абрэзаў пэнсіі дзяржаўных, а навет і прыватных працаўнікоў. Заступіўшыся за апошніх, социялісты, такім чынам, звалілі ўвесь унесены ў парлямант урадам праект бюджэту. Пры галасаваньні гэтага § 37 прэм'ер паставіў „пы-

таньне аб даверу" і быў пабіты...

Новы габінэт стварыў Альбэр Саро. Палітычны характар яго крыху больш правы — бліжэй да цэнтру. Але, як і ў папярэднім урадзе, галоўнае рашаючае ядро гббінэту складаюць радыкалы.

Аднак, склад францускага парляманту наагул такі, што проці волі соцыялістаў ня можа існаваць ніякі ўрад. Таму і новы ўрад змушаны быў цалком „прыняць да ведама" перасьцярогу з боку соцыялістаў: новы бюджэт мае быць пабудаваны на зусім іншых падставах. Новы прэм'ер заявіў, што зусім ня зьбіраецца безадкладна і за ўсялякую цану латаць бюджэтны недахоп коштам арміі працаўнікоў, ды што шмат важней перамагаць недахоп у бюджэце шляхам гаспадарчага ўздыму і разбудовы прадукцыі.

**Грунтоўная перабудова Нямеччыны.** Гітлер апрацаваў праект грунтоўнае перабудовы дзяржаўнага складу і ладу Нямеччыны. Усялякія сьляды былага фэдэратыўнага складу Нямецкага Саюзу маюць быць зьнішчаны дарэшты. „Адзіная і недзялімая" Нямеччына, не выключаючы і блізу самастойнае да апошніх дзён Баварыі і інш., мае быць падзелена на 14 адміністрацыйных акругоў, ці правінцыяў. Такім чынам, Нямеччына, якая славілася заўсёды шырокім разьвіцьцём чысьленых, раскіненых па ўсей краіне мясцовых культурна-гаспадарчых цэнтраў, цяпер мае стацца ня менш сцэнтралізаванай, як Францыя. Ясна, што ўсё гэта робіцца — не у інтарэсах культурнага творства, але ў інтарэсах будучае вайны. Мінулая вайна-ж і пачала катастрафічнае прысьпяшэньне гэтае перабудовы, распачатае—так сама ў выніку францускa-прускае вайны 1870-71 г. г.—знамянітым „закладчыкам Нямецкае Імпэрыі" кн. Бісмаркам. Гітлер, такім чынам, мае завяршыць дзела апошняга.

**170.000 палітычных вязьняў.** „Нацыянальная" рэвалюцыя ў Нямеччыне дагэтуль пасадзіла ў канцэнтрацыйныя лягеры 170.000 сваіх палітычных праціўнікаў, пераважна — камуністаў дый соцыял-дэмакратаў. Лічба гэтая ўсьцяж расьце. А новыя „выбары" павялічаць яе, хіба-ж, удвая.

**Новы высокі Камісар Лігі Нацыяў у Гданску.** Высокім Камісарам Лігі Нацыяў у Гданску Рада Лігі назначыла ірляндца Лестэра, дэлегата Ірляндыі ў Лізе.

**Новыя крывавыя падзеі ў Палестыне.** У розных месцах Палестыны, а ў першую чаргу ў Яфе,—у зьвязку з новым усіленьнем прытоку ў край жыдоўскіх пасяленцаў, дапушчаных англійскай уладай — выбухлі новыя выступленьні арабаў. У Яфе шмат тысячны натоўп арабаў з усей ваколіцы кінуўся з аружжам на гмахі англійскіх урадавых установаў. Калі не памагла паліцыя, прышлося паклікаць войска. У выніку страляніны—сотні раненых арабаў, шмат з іх цяжка, а каля 2 дзесяткоў забітых. Ранела і некалькі англійскіх паліцыянтаў.

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

## Новы вынаход.

У Амэрыцы наагул карыстаньне машынамі ня толькі на фабрыках, але і пры дамовай працы, даведзена да найвялікшай ступені. Вынаходы амэрыканскіх тэхнікаў у гэтай галіне пабіваюць рэкорды на ўсім сьвеце. Але навет сярод іх усіх выдаецца сваімі запраўды-ж цудоўнымі ўласьцівасьцямі новазбудаваная машына, якая сваім матэматычным „мазгом" здольна пабіць найлепшага матэматыка нашых часоў.

Так зван. „арытмомэтры", якія хутка робяць простыя арытмэтычныя дзеяньні над невялікімі лічбамі, ведамы ўжо даўно. Але новая машына, пабудаваная зусім на іншай падставе, як быццам не лякаецца найвялікшых лічбаў, якія складае, адыймае, перамнажае і дзеліць ў поўным сэньсе слова ў імгненьне вока. Трэба толькі напісаць асаблівымі дзюркаватымі цыфрамі патрэбныя лічбы на гэнай машынцы, пасьля націснуць электрычную кнопку, і зараз-жа на стужцы пакажацца гатовы рэзультат працы электрычнага „мосгу" машыны, якая ўдадатку і ніколі не памыліцца.

# Паштовая скрынка.

**Гр. Т. Рыбінскаму** — в. Адамаўцы — п. Гарадок, п. Маладэчна. Заяву й пісьмо Вашы атрыманы. У справе сталага неатрыманьня ў кіраванай вамі бібліотэцы Т. Б. А. часопісу „Родны Край" (высылаецца 5 эгз.). адміністрацыя злажыла — на падставе вашае заявы — рэклямацыю.

Янку Забеллу — в. Кульгаі, п. Празарокі, Янку Кур'яновіча — в. Салоная, п. Даўгінаў, Кастуся Грышэля — в. Навасёлкі, п. Ракаў, каля Аляхновіч і Сяргея Герасымчыка — в. Гранічы, п. Краснае над Ушай Сэкрэтарыят Т-ва Б. А. гэтым паведамляе, што Вы залегалізаваны кіраўнікамі Бібліотэкаў Т. Б. А. і што кніжныя камплекты Вам высылаюцца.

**Гр. Януку Пышцы** — в. Зачэпічы, п. Беліца. Вашу паштоўку атрымалі. Газэта высылаецца вам акуратна. Для высьвятленьня прычыны неатрыманьня вамі газэты Адміністрацыя зрабіла адпаведныя захады.

**Да ўсіх Бібліатэкараў Т. Б. А.** Сэкрэтарыят Т. Б. А. гэтым паведамляе, што ва ўсе 33 бібліатэкі Т. Б. А. высылаюцца надрукаваныя на брыстолі блянкі для вывесак. Блянк трэба акуратна аправіць у рамку пад шкло і вывесіць над хатай, дзе месьціцца Бібліатэка. Калі будуць якія перашкоды з боку мясцовае ўлады, безадкладна паведаміце аб гэтым Сэкрэтарыят.

**Пашырайце нашу газэту!**

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

Міхась Машара.

## Хатка.

Ветрамі абвеяна,
Згорбілась на бок.
Сьцены, дзьверы шэрыя
Закапціў дымок.

Стрэшка саламяная
Мохам парасла.
З вокан алавяная
Лучыцца туга.

Шыбы, звыкла,—бітыя
Летам і зімой.
Дзіры іх закрытыя
Чорнай ганучой.

З боку ў неба мецціцца
Дзюба асьвяра,
А ля ўгла разьвесіста
Разраслась вярба.

Красачак пад вокнамі
Маленькі гарод.
Бабы лойны мокрыя
Ускінулі на плот.

Два хляўцы з паветкаю
І наўзбоччу клець.
Усюды беднасьць сьведкаю,
Як мужык жывець.

Хатачка вясковая—
Матка бедната,
Цёмная і ўбогая,
Чым мне люба ты?

* * *

М. Дальны.

Вось вам песьня:
Зьвіткі гарачых мускулаў
І цяжкае дыханьне
З заціснутых вуснаў. —
Горкі дрыжыць барацьбяны
І рытм,
І сонца,
І рух.
Гэта вам ня байкі аб пекле,
Прыгожа апісаныя ў бібліі.
У гэтым руху нам сэрцы крэплі
І парывамі ў грудзі білі.
Маторы... маторы!..
У дымную муць
У паветры чорным
Істужкай плывуць.
Уядаюцца ў брук і—вушы.
Іх трэск бадзёры
Над местам наш крык узрушыў...
1933.

Погляд кожнага нязвычайны.
Сьмех вясьняны на вулках зьнік.
І над местам завісла тайна —
Уміраньня нямога крык.

Глянь—плыве серабро-павучыньне,
А на дрэвах—вішнёвы дым.
Накіпеўшы смутак раскінем
У гэтым полымі залатым.

1933.

Ар. Ат.

* * *

На вуліцы гармонь залілася—
Захлынаецца.
За ёй хлопцы ідуць,
Забаўляюцца
Прыпеўкамі...
За дзеўкамі
Шаландаюцца.

А дзяўчаты маладзенькі,
Як чырвоны мак...
Сэрца б'ецца так...

Хочацца бясконца
Пакахаць хлапца
Ды каб малайца —
Прыгожага, з кудрамі—
Хлопца удальца.

Мікола Засім

## „Шыхуе“.

Каб ня сьвіньні, дык Катрыне
З дзеткамі й Дзям'янам
Трэ' было б даўно ўжо лезьці
Жывымі у яму.
Бо з сьвіней—усе падаткі,
Соль, мыла і газа.
А самым.. і парасятка
Ня прышлось ні разу
Закалоць ды перачысьціць
Бульбяныя кішкі.
А тут на вось—захварэй-жа
Сыты паршучышча!
Тут Катрына аж ня знае,
Што пачаць рабіці.
Звалакла ад бабак зельле
Паршука лячыці.
— Што ты, мамка, клапацішся?
Гэта ж нам шыхуе.
Паршукоў хворых на рынку
Усякі збракуе.
Трэ' хутчэй яго зарэзаць —
Спрабаваці сала,
А то мне ад гэтай бульбы
Дубам кішка стала.
Усё купцом вазіць на рынак —
Няхай іх маланка!—
Так рубнуў сынок Катрыны —
Лет дванаццаць—Янка.

**Мікола Засім.**

## Вясковыя частушкі.

Наша вёсачка вяліка,
Маладзежы, як пяску.
У Краўцовага Мікіты,
Што дзень, музыка ва ўсю...

Ці-ж ня гад Рыгорка Зухаў:
У танцах проста аж гарыць,
А „лабудку" бацька з грукам
Дзень у дзень мусіць рабіць...

А Мацеява Катрына
Не дзяўчына—моцны вол,
Ня дасьць зельля нават сьвіням,
На музыках, як арол...

А музыка—вось музыка!
На увесь, браткі, павет!
Мала грае—йшчэ языкам
Лупіць—прост матацыклет.

І „курсанты" гладка песьні
Пад гармошачку смаляць,
А ушколе—хоць ты трэсьні—
Не памножаць пяць на пяць.

Наша вёсачка вяліка —
Маладзежы сотак дзьве.
За вёрст сорак на музыкі,
Як дачуецца, зайдзе.

1933.

---

## Літэратурныя навіны.

Мы зусім амаль адрэзаны і адарваны ад таго, што творыцца ў галіне літэратуры ў Савецкай Беларусі. Час ад часу далятаюць некаторыя весткі ў прэсе. Таму трудна нешта сказаць. як разьвіваецца там літэратура, што ў ёй нарастае новага, якія ў ёй праяўляюцца плыні і т. д. Мы атрымалі магчымасьць пазнаёміцца з зьместам некаторых кніжак, якія дасталіся адтуль у Вільню. Лічым сваім абавязкам падаць некалькі вестак аб іх для шырэйшага ведама. Дзеля гэтага ад гэтага нумару пачнем кароткі іх агляд інфармацыйнага характару. Агульнае нешта аб сучаснай беларускай літэратуры ўва Усходняй Беларусі трудна сказаць якраз па прычыне няпоўнасьці ўсіх твораў.

1. **Андрэй Ушакоў. „Зарава вагранак".** Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Л. і М. **1933.** 56 стр. in 16°. Вершы А. Ушкакова адбіваюць запал і ўпартасьць у тварэньні новых форм жыцьця. Ушакоў адзін з поэтаў новага беларускага рабочага места. Ён у вершах перадусім работнік, і таму праца — адзін з лейт-матываў яго зборнічка. Апрача таго — ён сябра колектыву людзей, якія праводзяць сьвядома ў жыцьцё экаламічныя пляны. Таму ён заклікае варштат, каб ён „разгоні ней" імчаў, таму ён свой кружочак „як вока" беражэць і апявае рэкорды працы. Тэмы Ушакова не агульныя, а штодзенныя. Шмат ёсьць прыгожых вобразаў. Вобразы часта пануюць. Ушакова можна назваць „гарадзкім імажыністам", у той час, як перад гэтым „імажынізм" прыходзіў з поля. Напр.:

„Белатвары, сухотны месяц
Прагна ліжа іржавасьць стрэх".

або: „На гасьцінцы шарэнгі бяроз
Нам махаюць гальлём калматым.
З цагляных камінoў—папірос
Закурылі сялянокія хаты".

У працы А. Ушакоў знаходзіць столькі дынамікі, што ажыўляе нават прыроду. Прырода мусіць ісьці на спатканьне ёй.

Эх, мароз, вакон не зачыняй
Ледзяной халоднаю фіранкай—

заклікае ён мароз.

Вэнтылятар так сама мусіць яму быць паслушным:

Вэнтылятар! Больш паветра дай!.

(Далей будзе).

---

## Літэратурная хроніка.

У выдавецтве „Wielka literatura powszechna", сшытак 78 (стр. 736—746) зьмешчаны ў перакладзе на польскую мову некаторыя творы беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў (Чачота, В. Д.-Марцінкевіча, Багушэвіча, Я. Коласа, Я. Купалы і некаторых іншых).

Навейшая беларуская літэратура ў гэтым выдавецтве зусім амаль ня мае мейсца.

---



Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22

